**№ 214 (1278)**
Пятніца, 16 лістапада 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 120 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

# Народная Воля

**Надвор'е**

Сёння ўдзень па краіне захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. Часам мокры снег, месцамі на дарогах галалёдзіца. Вецер паўночна-заходні, 9—14 м/с, часам парывы да 15—20, месцамі да 25 м/с. Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве — -1...-3, Мінску — 0...-2, Гродне, Брэсце — 0...+2, Гомелі — каля 0.

У наступныя двое сутак захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. Пераважна ў паўночных раёнах ападкі, месцамі на дарогах галалёдзіца. Вецер заходні, 6—11 м/с, у асобных раёнах парывы да 15—18 м/с. Тэмпература паветра ўначы 17-га — -3...-8, удзень -4...+1; 18-га ўначы -3...+2, удзень 0...+4.



**ПУЛЬС**

## Новыя кадравыя перастаноўкі

**Іван КАРЭНДА** стаў памочнікам прэзідэнта Беларусі, начальнікам галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі прэзідэнта;

**Васіль МАНЮК** прызначаны першым намеснікам старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь;

**Аляксандр САЛАМАХА** цяпер намеснік старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь;

**Пятра КУХАРЧЫКА** паставілі рэктарам Акадэміі кіравання пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь;

**Мікалая КАРАТКЕВІЧА** — намеснікам дзяржаўнага сакратара Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь;

**Васіля ДЗЕМЯНЦЕЯ** — начальнікам упраўлення Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь па Віцебскай вобласці;

**Анатоля ЦАКУНА** — начальнікам упраўлення Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь па Гомельскай вобласці;

**Уладзіміра ШАФАРЭНКУ** — начальнікам упраўлення ўнутраных спраў Брэсцкага аблвыканкама;

**Аляксандра ТЫШКЕВІЧА** — начальнікам 72-га гвардзейскага аб'яднанага вучэбнага цэнтра падрыхтоўкі прапаршчыкаў і малодшых спецыялістаў;

**Юрыя МЕРАНЦАВА** — начальнікам упраўлення кадраў Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь;

**Сяргея ЦІХАНЕНКУ** — камандзірам 120-й гвардзейскай асобнай механізаванай брыгады Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ.**

## "Беларускае пытанне" за зачыненымі дзвярыма

**Пасяджэнне Палітычнага камітэта Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, якое адбудзецца ў Вільнюсе 19—20 лістапада, пройдзе за зачыненымі дзвярыма. Пра гэта БелаПАН паведаміў намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Анатоль Лябедзька.**

Першапачаткова меркавалася, што на гэтае пасяджэнне, якое абмяркуе сярод іншых праблем і "беларускае пытанне", будуць запрошаны дзве беларускія дэлегацыі — ад Нацыянальнага сходу і палітычнай апазіцыі. Аднак у апошні момант міжнародныя парламентарыі вырашылі правесці дыскусію па Беларусі самастойна і за зачыненымі дзвярыма. Дакладчыкам па гэтым пункце парадку дня выступіць прадстаўнік Германіі Вольфганг Берэндт.

**Уладзімір ГЛОД.**

## Салігорскія гарнякі праводзяць пікет

**16 лістапада прадстаўнікі арганізацыі Незалежнага прафсаюза гарнякоў салігорскага ВА "Беларуськалій" правядуць у Мінску пікет.**

Акцыя, санкцыяніраваная ўладамі, пройдзе ў парку Дружбы народаў (каля сталічнай плошчы Бангалор) з 10 да 13 гадзін. Мяркуецца, што ў ёй возьмуць удзел да 30 чалавек.

Гарнякі маюць намер патрабаваць ад улад адмены падаткаабкладання выхадных дапамог, якія выплачваюцца пры звальненні работніка з прадпрыемства, у тым ліку — пры скарачэнні штату, а таксама зніжэння стаўкі падаходнага падатку да 13 працэнтаў.

Каля месяца таму лідэры дзвюх прафсаюзных арганізацый, дзеючых у ВА "Беларуськалій", — Беларускага прафсаюза работнікаў нафтавай прамысловасці і Незалежнага прафсаюза гарнякоў — звярнуліся з адкрытым лістом да дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі. Ад імя 20-тысячнага калектыву "Беларуськалія", аднаго з найбуйнейшых экспарцёраў краіны, яны заклікалі парламентарыяў "не дапусціць антыканстытуцыйных паправак у Працоўны кодэкс".

Паколькі рэакцыі на адкрыты ліст з боку дэпутатаў не было, салігорскія гарнякі вырашылі прыцягнуць увагу грамадскасці да гэтых праблем шляхам правядзення ў сталіцы акцыі пратэсту.

**Ірына ЛЕЎШЫНА.**

## "У времени в плену"

ГЕННАДИЙ КАРПЕНКО
У времени в плену

В российском издательстве "Можайск-терра" тиражом 2000 экземпляров вышла книга воспоминаний "У времени в плену" Николая Гиля. Книга посвящена жизни и деятельности так рано ушедшего от нас известного белорусского политика Геннадия КАРПЕНКО.

"Народная воля" собирается печатать на своих страницах выдержки из книги. Мы обращаемся к общественным распространителям с просьбой помочь в ее реализации.

По вопросам приобретения обращайтесь, пожалуйста, в штаб-квартиру Объединенной гражданской партии по адресу: **ул. Комсомольская, 11—216. Тел. 211-02-79.** Стоимость книги "У времени в плену" — 3000 руб.

# ЗАЯВА

## Грамадскага аб'яднання "Беларуская асацыяцыя журналістаў"

12 лістапада Вышэйшы Гаспадарчы суд Рэспублікі Беларусь (суддзя Валеры Жандараў) вынес рашэнне спыніць дзейнасць незалежнай газеты "Пагоня" і ліквідаваць рэдакцыю гэтай газеты.

Іск аб закрыцці газеты падала пракуратура Гродзенскай вобласці. Яна ж распачала крымінальную справу паводле факта апублікавання напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў матэрыялаў, якія, на думку пракуратуры, утрымліваюць паклёп на прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (ч.1 арт. 367 КК).

Пракуратура сцвярджае, што падставай для закрыцця газеты і ліквідацыі рэдакцыі сталі неаднаразовыя парушэнні газетай заканадаўства аб друку. У рэчаіснасці на момант звароту пракуратуры ў суд ("у інтарэсах дзяржавы ў асобе Дзяржкамітэта па друку") рэдакцыі было вынесена толькі адно афіцыйнае папярэджанне (на працягу года) за публікацыю звароту незарэгістраванай органамі юстыцыі арганізацыі "Гродзенская ініцыятыва". Калі падчас судовага працэсу высветлілася, што гэтага недастаткова для закрыцця газеты, пракуратура Гродзенскай вобласці вынесла газеце другое папярэджанне (ад 21 верасня) за публікацыю тых жа матэрыялаў, што сталі падставай для ўзбуджэння крымінальнай справы. Пракуратуру не збянтэжыла, што расследаванне гэтай справы не скончылася і няма судовага рашэння, якое пацвярджала б факт парушэння газетай заканадаўства. Не спыніла яе і тое, што ўвесь наклад нумара газеты, у якім друкаваліся згаданыя матэрыялы, быў канфіскаваны ў друкарні, у выніку чаго газета так і не трапіла да чытачоў.

Рэдакцыя газеты "Пагоня" абскардзіла папярэджанне пракуратуры ў Гаспадарчы суд Гродзенскай вобласці. Аднак Вышэйшы Гаспадарчы суд узяўся сам разглядаць скаргу і аб'яднаў яе з іскам пракуратуры аб закрыцці газеты. У судовым разглядзе суддзя В.Жандараў прызнаў гэтае папярэджанне законным і абгрунтаваным, нягледзячы на тое, што факт паклёпу на прэзідэнта не быў даказаны ва ўсталяваным парадку.

Міністэрства інфармацыі (раней - Дзяржкамітэт па друку), у інтарэсах якога быў пададзены іск аб закрыцці газеты і ліквідацыі рэдакцыі, адмовілася ад іску яшчэ да суда. Тым не менш Вышэйшы Гаспадарчы суд не прыняў да ўвагі аргументы прадстаўнікоў рэдакцыі газеты "Пагоня" і Міністэрства інфармацыі і адначасова з прызнаннем папярэджання пракуратуры абгрунтаваным вынес рашэнне аб закрыцці газеты "Пагоня" і ліквідацыі рэдакцыі.

Беларуская асацыяцыя журналістаў звязвае закрыццё газеты "Пагоня" і ліквідацыю яе рэдакцыі з абяцаннем Аляксандра Лукашэнкі "разабрацца" з незалежнай прэсай пасля выбараў. У гэтым жа шэрагу - працяг расследавання крымінальных спраў, распачатых па факце публікацыі передвыбарчых матэрыялаў у газетах "Пагоня" і "Рабочы" і адмова Вышэйшага Гаспадарчага суда разглядаць іск газеты "Брестский курьер" да Міністэрства адукацыі аб прызнанні несапраўдным папярэджання.

Беларуская асацыяцыя журналістаў выказвае рашучы пратэст у сувязі з гэтымі фактамі. Мы заклікаем спыніць палітычна матываваныя крымінальныя справы, датычныя незалежных выданняў і журналістаў.

Беларуская асацыяцыя журналістаў патрабуе ад беларускіх уладаў тэрмінова перагледзець рашэнне аб закрыцці газеты "Пагоня", якое не грунтуецца на законе і фактах. У выпадку, калі гэтае патрабаванне не будзе выканана, мы пакідаем за сабою права арганізацыі акцый пратэсту, а таксама звароту па дапамогу да міжнароднай супольнасці — удзельніц АБСЕ, сябрам якой з'яўляецца і Рэспубліка Беларусь.

**СКАНДАЛ**

# У ТЭАТРЫ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ ЗАБАРАНІЛІ ЯНКУ КУПАЛУ

### 14 лістапада за некалькі гадзін да пачатку спектакля "Тутэйшыя" акцёрам паведамілі, што яны могуць не прыходзіць у тэатр. Спектакль адмянілі. І хутчэй за ўсё назаўжды...

Апошні раз твор Янкі Купалы ў пастаноўцы вядомага рэжысёра Мікалая Пінігіна ў Купалаўскім паказвалі дзевяць месяцаў таму. Тэатральная эліта гаварыла, што напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў "Тутэйшых" асабліва настойліва рэкамендавалі не паказваць. Бо п'еса, на думку некаторых высокапастаўленых чыноўнікаў, цалкам антынацыянальная.

А спектакль быў касавым. Яго любілі і школьнікі, і пенсіянеры. "Под занавес" уся зала, незалежна ад палітычных поглядаў, пляскаючы ў далоні, шчыра крычала "Біс!" і "Жыве Беларусь!".

П'еса Янкі Купалы "Тутэйшыя" была напісана ў 1922 годзе. Упершыню на тэатральнай сцэне з'явілася ў 1926 годзе, але хутка была знята як ТВОР СУПЕРНАЦЫЯНАЛІСТЫЧНЫ. У 1982 годзе пра п'есу ўспомніў рэжысёр Магілёўскага абласнога тэатра В.Маслюк. Але і на гэты раз яе сцэнічнае жыццё было нядоўгім: пасля паказу ў Мінску "Тутэйшых" зноў знялі з рэпертуару. На сцэне Купалаўскага тэатра "Тутэйшых" адрадзілі ў 1990 годзе. У 1992 годзе спектакль атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі.

Падзеі ў п'есе разгортваюцца ў 1920-х гадах. Галоўны герой "Тутэйшых" Мікіта Зносак адмаўляе ўсё беларускае, гаворыць пра *"адзіны непадзельны рускі язык"*, які б ён *"завёў ад Афрыкі да Амерыкі, і ад Смаленска да Берліна"*. Вучоныя Усходні і Заходні падчас сваіх размоў сцвярджаюць, што Беларусь ні ў якім разе не можа быць самастойнай. Тыя, каго Купала называе "тутэйшымі", не заўважаюць, як ганьбяць беларускую культуру...

Па афіцыйнай версіі, у тэатры нічога не здарылася. Маўляў, спектакль ідзе на Купалаўскай сцэне адзінаццаць гадоў. За гэты час у ім нават ніводнай дошкі не змянілі. Таму і адмянілі. Раптам каму-небудзь з акцёраў дэкарацыя на галаву зваліцца?

Аднак самі акцёры расказваюць, што ў тэатры па тэхнічным стане ёсць значна горшыя спектаклі. Але іх з рэпертуару чамусьці не здымаюць. Некаторыя ідуць нават па два разы на месяц.

Па словах артыстаў, *"спектакль прывезлі са склада і ўжо нават пачалі манціраваць"*. А потым паведамілі, што замест трагікамічных сцэн Я.Купалы "Тутэйшыя" будуць трагікамічныя сцэны А.Астроўскага "Свае людзі — паладзім".

Артысты ад замены не адмовіліся і выйшлі на сцэну. Тэатр — не месца для мітынгаў, лічаць яны.

У "Тутэйшых" занятыя Мэтры Купалаўскага тэатра — Марыя Захарэвіч, Генадзь Аўсяннікаў, Аляксандр Лабуш, Алена Сідарава, Зоя Белахвосцік і іншыя. Многія з іх не вераць у афіцыйную версію адмены спектакля.

"Тутэйшых" вывучаюць у школе. У школьных падручніках напісана: *"...п'еса вучыць праўдзе, выхоўвае пачуццё нацыянальнай годнасці і гордасці"*. Відаць, новаму міністру адукацыі Пятру Брыгадзіну хутка аддадуць загад перапісаць падручнікі і дапаможнікі не толькі па гісторыі, але і па беларускай літаратуры. Ці адразу выкрасліць з іх імя Янкі Купалы і ўсе яго творы.

У Міністэрстве культуры не змаглі пракаменціраваць сітуацыю з "Тутэйшымі". У гэтай установе апошнім часам усе занепакоены рэфарматарскім "зудам". Кажуць, праз тыдзень-



*Сцэна са спектакля "Тутэйшыя". Пастаноўка М. Пінігіна.*

другі аддзел тэатраў спалучаюць з некалькімі іншымі. Некаторыя міністэрскія спецыялісты не чакаюць, пакуль іх звольняць ці адправяць на пенсію, і ўжо пачалі шукаць новую працу.

Міністэрства культуры Беларусі, відаць, сёння зусім не цікавяць трывогі і клопат Янкі Купалы за духоўную спадчыну беларускага народа і за яго нацыянальную свядомасць. У кулуарах міністэрства часта ўзгадваюць, што цяперашні міністр культуры Леанід Гуляка, калі працаваў у Савеце міністраў, амаль заўсёды размаўляў на беларускай мове. Аднак у міністэрстве ён паціху пачаў пазбаўляцца ад гэтай звычкі. Апошнім часам ягоныя публічныя выступленні на мове можна пералічыць па пальцах. Нават на нядаўнім фестывалі "Залаты шлягер" у Магілёве міністр культуры Беларусі гаварыў па-руску. А ПЕРШАЕ БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА на "Шлягеры" ВЫМАВІЎ РАСІЙСКІ СПЯВАК Ігар Карнялюк, які, у адрозненне ад некаторых важных асобаў, ганарыцца сваімі беларускімі каранямі. Між іншым, былы міністр культуры Аляксандр Сасноўскі нават у прысутнасці А.Лукашэнкі не саромеўся гаварыць на матчынай мове. Хаця ведаў, што некаторым гэта надта не падабаецца...

У адказ на пытанне "Хто загадаў у тэатры Янкі Купалы забараніць Янку Купалу?" чыноўнікі Мінкульта адводзяць вочы ў бок ці пачынаюць нешта незразумелае плясці пра дэкарацыі, якія знянацку могуць зваліцца на галаву акцёрам...

**Валеры МАЗЫНСКІ, галоўны рэжысёр тэатра "Вольная сцэна":**

— Раней хадзілі чуткі пра тое, што гэты спектакль улады рэкамендавалі прытрымаць, бо ён вельмі нацыянальны. Але ж "Тутэйшыя" былі ў рэпертуары! Нават калі там сапраўды нейкія непаладкі з дэкарацыямі, гэта можна лёгка выправіць. Тым больш спектакль у рэпертуар ставяць не за два дні і нават не за два тыдні!.. Дый акцёры — я перакананы ў гэтым — сыгралі б "Тутэйшых" нават пры адной трэці дэкарацый!

Застаецца толькі адно тлумачэнне — палітыка...

**Марына КОКТЫШ.**

**ГРОМКОЕ ДЕЛО**

# Свидетели преступлений группы Игнатовича избегают зала суда

**Закрытый процесс о похищении российского телеоператора фактически еще не начат: Димин эпизод — в самом конце списка преступлений, инкриминируемых обвиняемым.**

Судебное разбирательство вот уже три недели продвигается черепашьими темпами. Заседания или вообще отменяются, или, в лучшем случае, допрашивают одного-двух свидетелей и расходятся, потому как допрашивать некого. Очень похоже на то, что свидетели боятся появляться в зале суда.

Как известно, прокуратура не смогла (или не захотела) до конца раскрыть данное преступление и лишь под давлением общественности вынуждена была передать нераскрытое до конца дело в суд, объединив уголовные деяния группы Игнатовича с похищением Д.Завадского. Суд допрашивает свидетелей лишь по уголовным эпизодам, к похищению неизвестно когда еще подойдут. В этом, как мне кажется, и кроется суть объединения дела Д.Завадского с другими уголовными эпизодами.

А ведь именно государственный обвинитель обязан представлять доказательства (статья 293 пункт 5 УПК). Власти у прокуратуры тоже вроде бы достаточно. И необеспечение явки свидетелей обвинения очень смахивает на преднамеренное затягивание прокуратурой судебного следствия.

К сожалению, дать читателям своевременный и подробный обзор хода судебного разбирательства не представляется возможным из-за закрытости процесса. Информацию приходится собирать по крохам.

**Валерий АЛЕКСЕЕВ.**



# Судья обязал Вячеслава Сивчика доказывать свою невиновность

*В полдень 14 ноября административный судья Минского района сообщил: дело в отношении Вячеслава Сивчика об участии в несанкционированном пикете прекратить в связи с отсутствием события и состава правонарушения.*

Оправдан вчистую. А ведь за время "празднования" властями в "Куропатах" 84-й годовщины Октябрьской революции (8—9 ноября 2001 года) в суды Советского и Минского районов направлено 28 административных дел. Все протоколы — как близнецы-братья: имярек "участвовал в несанкционированном пикете (на территории мемориала в память жертв политических репрессий 30—40-х годов XX столетия. — **В.Щ.**), во время проведения строительных работ препятствовал движению транспорта, бросался под колеса машин...".

Поскольку Административный кодекс не предполагает групповой ответственности, то судья А.Точкар, объявляя об отсутствии события правонарушения по статье $167^{1}$, говорил лишь о В.Сивчике. Однако, на мой взгляд, обвинения, предъявленные задержанным, никак не подпадают не только под определение пикета, но и под сферу действия самого закона "О собраниях, митингах, шествиях, демонстрациях и пикетировании". Потому как за создание аварийной обстановки (а как еще иначе понимать фразу "препятствовал движению транспорта, бросался под колеса машин") КоАП предусматривает (часть 2 статьи 120) наказание в виде штрафа от 0,5 до 3,0 МЗП.

Но 22 тысячи рублей — слишком мизерная сумма (в бюджете белорусского государства штрафы составляют довольно весомую долю). И в райотделах милиции оформляют протоколы по статье $167^{1}$, сумма штрафа по которой в 100 (!) раз больше.

Судья потребовал от В.Сивчика **доказать свою невиновность**. Вячеслав Вадимович доказывал свою невиновность в течение трех судебных заседаний. Помимо свидетельских показаний, суду была представлена видеозапись, из которой следует, что в указанное время обвиняемый в правонарушении находился в прямом эфире московского телеканала ТВ-6, а не под колесами самосвалов.

Железное алиби! К сожалению, Александр Точкар как служитель Фемиды не вынес определения в адрес Минского РОВД в целом и майора Г.Василевского в частности, обвинивших Вячеслава Сивчика не только в совершении правонарушения, но и в неповиновении милиции.

После судебного процесса я спросил судью Точкара, почему он потребовал, чтобы Сивчик доказывал свою невиновность. Ведь в соответствии с принципом презумпции невиновности обвиняемый не обязан это делать.

Александр Федорович ответил, что данная норма относится лишь к уголовному процессу, а в административном не действует, и руководствовался он статьей 247 КоАП. Я внимательно перечитал упомянутую статью, но обязанности лица, привлекаемого к административной ответственности, доказывать свою невиновность в ней не обнаружил.

Похоже, в Минском районном суде забыли (или не знают) постановление Пленума Верховного суда №1 от 25 марта 1999 года, которым суды обязываются исходить из принципа презумпции невиновности и при рассмотрении административных дел.

**Валерий ЩУКИН,**
**правозащитник.**

**ПОСТФАКТУМ**

# "Выборы были подтасованы!"

### Еще одно свидетельство американских социологов

**Тема президентских выборов постепенно уходит из политического лексикона страны. Кто-то занимается самоедством, кто-то зализывает раны обиды, кто-то думает о том, как жить дальше, как бороться с этим опостылевшим режимом в ближайшие годы. Немало шишек досталось после 9 сентября единому кандидату Владимиру Гончарику, всей объединенной оппозиции. Данные социологических исследований, которые совсем недавно попали в редакцию "Народной воли", свидетельствуют о той грандиозной работе, которая проделана перед выборами.**

Исследования накануне и во время выборов в Беларуси проводила пользующаяся авторитетом американская фирма "Вирслин уорлдвайд" ("Wirthlin Worldwide") по заказу Международного Республиканского института (США).

Чтобы не утомлять читателя многочисленными массивными таблицами, приведу некоторые, без преувеличения, сенсационные данные. Цитирую:

"Анализ цифровых данных по переизбранию Лукашенко и восприятию всех трех кандидатов среди неопределившихся избирателей позволяет делать следующие предпосылки по выборам. По нашим лучшим оценкам, окончательное распределение голосов на день выборов должно было быть такое:

**Лукашенко — 48%,**
**Гончарик — 40%,**
**Гайдукевич — 6%,**
**Против всех — 6%.**

Используя более либеральную формулу, получается следующий результат:

**Лукашенко — 51%,**
**Гончарик — 37%,**
**Гайдукевич — 6%,**
**Против всех — 6%.**

"... ничто в данных настоящей недели (имеется в виду неделя выборов. — **А.С.**) и в данных предыдущих семи месяцев опроса НЕ УКАЗЫВАЕТ на то, что Лукашенко получит 75,6% голосов. Согласно нашим данным и анализу, весьма сомнительно, что число голосов превысит 52%".

Изучив данные американской социологической лаборатории, можно сделать вывод: А.Г. мог победить на выборах, но победить в ИСКЛЮЧИТЕЛЬНО УПОРНОЙ борьбе, а не с сокрушительным перевесом.

Как известно, за полгода до президентских выборов рейтинг Владимира Гончарика колебался в пределах статистической ошибки. Теперь мы узнаем, что, если бы подсчет голосов на выборах действительно проводился, а не имитировался, Гончарик набрал бы как минимум 37%. На практике это могло бы означать второй тур и продолжение борьбы.

**Александр СИЛИЧ.**

**КРИМИНАЛ**

## На нары — одного за другим

Совсем недавно гомельское управление Комитета по организованной преступности и коррупции при МВД взялось разрешить непростую загадку: почему все последние годы в области были самые высокие цены на хлеб? Естественно, присмотрелись к объединению "Гомельхлебпром". И, говорят, узрели, что руководители стоят с протянутой рукой перед поставщиками муки — то ли на хлеб просят, то ли на булку с маслом.

Особенно в этом деле отличились заместитель генерального директора Павел Кундас и начальник отдела снабжения Олег Елисеев. Что еще обнаружили ушлые сотрудники управления у них в руках, можно только догадываться. Хлебопеки сидят в изоляторе на нарах и уже, наверное, думают о сухарях.

Уголовное дело возбудили и против генерального директора "Гомельхлебпрома" Николая Пугачева, считай, первого в области хлебопека и коммуниста. Чем он злоупотребил, покажет следствие и суд, если, конечно, дело будет доведено до завершения. При этом областная организация ПКБ может лишиться своего недавнего лидера. Николай Пугачев хотя и заявил о сложении с себя полномочий первого секретаря ОК ПКБ по причине поддержки партией на недавних выборах единого кандидата от оппозиции, но преемника конференция еще не избрала.

Конечно, человек, а тем более руководитель, жив не хлебом единым. Некоторые рады еще и мороженому. Например, заместитель директора Гомельской фабрики мороженого Валентин Половцев. Он так радовался сладко-прохладно-нежному продукту, что даже взятки брал. И таял на глазах, как утверждают "убоповцы", взявшие его под стражу с поличным.

Прочитав эти строки, кто-то, возможно, изречет с негодованием: "С жиру бесятся!" И будет трижды прав. С чего, например, можно еще беситься на жирокомбинате? Не с майонеза же или мыла, хотя и их производят на этом республиканском унитарном предприятии.

Впрочем, с чего на самом деле "бесился" заместитель директора жирокомбината Юрий Цуренков, доподлинно разбираются сотрудники следственного управления. Говорят, был этот заместитель вроде бы "хищником", в том смысле, что занимался хищениями.

Да, редеют кадровые ряды Гомельщины. Все больше и больше начальников и начальничков оказывается на нарах.

**Анатолий ГОТОВЧИЦ.**

ПУЛЬС

## Рэстаўратар Чорнавокі

Аляксандр Чорнавокі — рацыяналізатар, гравіроўшчык, інкрустатар, слесар. Адным словам, рэстаўратар Кобрынскага ваенна-гістарычнага музея. Экспанаты, якія пабывалі ў яго руках, набываюць першапачатковыя выгляд і функцыі.

**На здымку:** *майстар рэстаўрыруе ружжо часоў вайны 1812 года.*

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

## У Гомелі адкрыўся Рэспубліканскі кніжны кірмаш

**У кірмашы бяруць удзел 40 дзяржаўных і прыватных выдавецтваў.**

Намеснік міністра інфармацыі Станіслаў Нічыпаровіч падкрэсліў, што галоўная мэта кірмашу — згладзіць супярэчнасці паміж выдаўцамі і гандлем. Асноўная праблема ў іх узаемаадносінах — узрастаючыя сумы запазычанасці гандлёвых арганізацый перад выдавецтвамі.

Станіслаў Нічыпаровіч звярнуў увагу гандлю на тое, што ў асартыменце ўсіх без выключэння дзяржаўных кніжных магазінаў павінны знаходзіцца кнігі, выдадзеныя ў Беларусі. Намеснік міністра падкрэсліў, што перавагу, якую беларусы аддаюць расійскім выданням, трэба замяніць на давер да беларускіх кніг.

Таксама падчас "круглага стала", у якім узялі ўдзел усе зацікаўленыя асобы, абмяркоўваліся пытанні ўдасканальвання сістэмы распаўсюджвання кніжнай прадукцыі і праблемы цэнаўтварэння.

**Ірына ШАНЦАВА.**

## "МАЗ-МАН" рэарганізуецца

**На сумесным беларуска-германскім прадпрыемстве "МАЗ-МАН" праходзіць працэс рэарганізацыі.**

Сутнасць рэарганізацыі заключаецца ў тым, што замежнае прадпрыемства "МАЗ-МАН Трак Трэйдынг", якое займалася продажам і сэрвісам грузавікоў маркі "МАЗ-МАН", увойдзе ў склад вытворчага СП ЗАТ "МАЗ-МАН" у якасці дырэкцыі па продажах і сервісе.

Неабходнасць такога кроку, паводле слоў акцыянераў, выклікана дзвюма асноўнымі прычынамі. Першая заключаецца ў імкненні знізіць выдаткі па продажах, больш гнутка рэагаваць на рынкавыя цэны. Нават у выпадку беспрыбытковай працы гандлёвага прадпрыемства ў Беларусі яно павінна выплачваць падаткі, якія складаюць каля 5 працэнтаў. Аднак продаж аўтамабіляў напрамую з прадпрыемства дазваляе адысці ад гэтай неабходнасці. Апрача таго, практыка работы са спажыўцамі краін СНД паказала, што яны маюць больш давер да прадукцыі, набытай непасрэдна ў вытворцы.

Пры гэтым у Цэнтры грамадскіх сувязяў падкрэслілі, што звесткі аб "крытычным становішчы праекта", якія з'явіліся ў прэсе, не адпавядаюць сапраўднасці. У 2001 годзе СП ЗАТ "МАЗ-МАН" плануе вырабіць і рэалізаваць 120 грузавікоў, што на 80 працэнтаў больш за паказчыкі 2000 года, калі было сабрана і рэалізавана 67 машын.

**Аляксей АРЭШКА.**

## У нас каля 130 тысяч хворых на цукровы дыябет

**Сусветная тэндэнцыя росту хворых на дыябет не абышла і Беларусь. Пра гэта 13 лістапада на прэс-канферэнцыі ў Мінску паведаміў начальнік галоўнага ўпраўлення лячэбна-прафілактычнай дапамогі Міністэрства аховы здароўя Беларусі Аляксандр Цыбін.**

Якасць жыцця хворых на дыябет у Беларусі можна ацэньваць па магчымасці стварэння паўнавартаснай сям'і і нараджэння здаровага дзіцяці. Так, на базе 1-й Клінічнай бальніцы створаны рэспубліканскі цэнтр "Цукровы дыябет і цяжарнасць", дзе за 2000 год атрымалі дапамогу 393 пацыенткі.

Прынцыпова змяніўся падыход да выбару метаду родадапамогі, знізілася колькасць мёртванароджаных дзяцей. Такім чынам, адзначыў спецыяліст, на сённяшні дзень цукровы дыябет не з'яўляецца перашкодай для стварэння паўнавартаснай сям'і і нараджэння здаровых дзяцей.

Адной з праблем у хворых на дыябет з'яўляецца захворванне ніжніх канечнасцей і ступняў, што ў большасці выпадкаў прыводзіць да ампутацыі. У сувязі з гэтым ва ўсіх абласцях Беларусі ствараюцца спецыяльныя кабінеты "Дыябетычная ступня", дзе дзякуючы розным працэдурам удаецца значна знізіць колькасць ампутацый.

Спецыялісты падкрэсліваюць, што толькі прытрымліваючыся здаровага ладу жыцця, можна знізіць рызыку развіцця ўскладненняў пры захворванні на дыябет.

**Вольга АСІПЕНКА.**

# Хто абакраў даярку,

## або Як жывецца цяпер вяскоўцу

*Калісьці прафсаюзы выдзялялі вясковым працаўнікам пуцёўкі, аказвалі матэрыяльную дапамогу... А як цяпер? З такім пытаннем мы звярнуліся да **старшыні Рэспубліканскага камітэта прафсаюзаў работнікаў аграпрамысловага комплексу Аляксандра Ільіча Ярашука.** Але наша размова хутка выйшла за межы пытання, пайшла шырэй, закранула многія бакі сённяшняга...*

**— Аляксандр Ільіч, як наогул жывецца вяскоўцу?**

— Нармальным яго жыццё не назавеш. Зарплата малая, ды і тая часта не выплачваецца.

**— Які сярэдні заробак калгаснікаў, рабочых саўгасаў?**

— За верасень ён склаў 89 тысяч рублёў. Сярэдняя зарплата па краіне — 141 тысяча рублёў. Як бачым, сялянскі заробак амаль у паўтара раза меншы за агульнарэспубліканскі. Прычым у верасні работнікі сельскай гаспадаркі атрымалі менш, чым у жніўні.

**— На колькі?**

— У жніўні сярэдні заробак у сельскай гаспадарцы быў 102,5 тысячы рублёў.

**— Чым можна патлумачыць яго падзенне?**

— Як чым? Прэзідэнцкімі выбарамі. Напярэдадні іх прымаліся любыя захады, каб палепшыць сітуацыю з заработнай платай. Тады нават прымушалі перапрацоўчыя прадпрыемствы загадзя аплачваць за будучую сельскагаспадарчую прадукцыю. Некаторыя малаказаводы за два гады наперад аддалі грошы калгасам. Выграблі ўсё і аддалі. Цяпер ім самім цяжка. Яшчэ цяжэйшая перспектыва ў тых калгасаў. Уяўляеце, два гады ім трэба пастаўляць на завод малако ўжо "за так".

**— Кажуць, сяляне нячаста атрымліваюць зарплату грашыма, нярэдка з імі разлічваюцца прадукцыяй.**

— Гэта так. Нядаўна мы разглядалі на прэзідыуме прафсаюза аграпрамысловага комплексу стан спраў у Быхаўскім раёне. Высветлілася, што толькі некаторыя з 27 сельскіх гаспадарак выплачваюць заробак грашыма. У большасці — натуральная плата. Выдаюць, а дакладней — афармляюць заробак людзям зернем, малаком... Натуральна, што на вёсцы самая вялікая запазычанасць па зарплаце. На 12 лістапада яна склала 21,3 мільярда рублёў.

**— Расшыфруйце, калі ласка, гэтую лічбу.**

— Калі гаварыць проста, дык амаль кожны трэці не атрымаў за апошнія два месяцы свой заробак наогул, нават ураджаем.

**— Як рэагуюць работнікі сельскай гаспадаркі на такую сітуацыю?**

— Я сказаў бы так: людзі ўжо змірыліся з усім. У іх няма веры ў лепшае.

**— І што, ніяк не пратэстуюць?**

— Знешне пакуль пратэст не праяўляецца. Але ён спее.

**— Так, простаму вяскоўцу жывецца дрэнна. Затое прафсаюзныя кіраўнікі, напэўна, жыруюць? Ва ўсякім разе, прадстаўнікі ўлады не раз сцвярджалі падобнае.**

— Мы ўжо прывыклі да гэтай хлусні і дэмагогіі. На самай справе сярэдні заробак у работнікаў Рэспубліканскага савета нашага прафсаюза дзесьці 160 тысяч рублёў. Прычым апошняе павышэнне зарплаты ў ліпені нас не кранула, бо мы не мелі сродкаў.

**— А штат які?**

— Усяго шэсць чалавек на арганізацыю, у якой мільён членаў.

**— Раней было больш?**

— У савецкія часы — каля 40 чалавек. Вымушаны скарачацца. Вось і нядаўна скарацілі яшчэ адну пасаду.

**— Раней прафсаюзы выдавалі пуцёўкі працоўным, матэрыяльную дапамогу... Як цяпер?**

— Цяпер няма на гэта сродкаў. Сапраўдны разбой з пералічэннем прафсаюзных узносаў. Запазычанасць па нашым прафсаюзе складае звыш як 2,2 мільярда рублёў. Дарэчы, больш за 70 працэнтаў узносаў застаецца ў пярвічных прафсаюзных арганізацыях. З іх яны і аказвалі матэрыяльную дапамогу тым, хто меў у ёй большую патрэбу. Цяпер сродкі ў іх вельмі абмежаваныя, а дакладней, іх практычна няма.

Затрымка з пералічэннем прафсаюзных узносаў — гэта ўсё роўна як крадзеж грошай у даярак і механізатараў. Яны ж добраахвотна плацяць іх са сваёй зарплаты, каб прафсаюзныя арганізацыі мелі фонд для аказання падтрымкі тым, хто мае вострую патрэбу ў дапамозе.

**— Хто ж крадзе гэтыя грошы ў даярак і механізатараў? Ці, гаворачы па-іншаму, чаму не пералічваюцца ўзносы на прафсаюзныя рахункі?**

— Пералічэнне прафсаюзных узносаў аднесена да чацвёртай чарговасці плацяжоў. Улічваючы выключна цяжкае фінансавае становішча гаспадарак, іншых суб'ектаў гаспадарання АПК, іх даўгі, банкі проста не пералічваюць узносы на рахунак прафсаюзных арганізацый. Такім чынам, утварылася замкнутае кола. Як часта здараецца ў нашай краіне, грошы ўкрадзены, а вінаватых няма.

**— Калі ласка, падрабязней пра фінансавае становішча гаспадарак...**

— Назаву дзве лічбы. Крэдыторская запазычанасць гаспадарак ужо сёння складае 1,1 трыльёна рублёў. Уся мяркуемая гадавая выручка складзе дзесьці 1,3 мільярда рублёў. Словам, выручкі не хопіць, каб разлічыцца з даўгамі. А дзе ўзяць сродкі на рамонт і набыццё тэхнікі, сродкаў па доглядзе за пасевамі... Нарэшце, чым плаціць тым жа механізатарам і даяркам? Сельскія гаспадаркі пачнуць жыць у новым годзе, залазячы ў доўг...

**— Чаму яны трапляюць у такое становішча?**

— Таму што не праводзяцца рэформы, ніхто не турбуецца аб эфектыўнасці сельскагаспадарчай працы. Усё нацэлена на дасягненне пэўнага вала. А якой цаной ён дасягаецца? Гэта мала каго турбуе. Летась палова гаспадарак была стратнай. Сёлета чакаецца павелічэнне іх колькасці.

**— Але чаму так бывае?**

— Назаву некалькі лічбаў. Каб нашаму хлеbabору купіць тону саляркі, яму трэба прадаць зерня ў 1,5 раза, малака ў 3,2 раза, мяса — у 2 разы больш, чым яго расійскаму калегу. Нашаму селяніну за тую ж тону саляркі трэба прадаць амаль у 5 разоў больш збожжа, у 10 разоў — мяса і ў 15 разоў больш малака, чым яго калегу з краін Еўрапейскага Саюза. Адкуль жа тады будзе добры фінансавы стан гаспадарак?

**— Словам, выходзіць, што дзяржава абкрадае сельскія гаспадаркі, у тым ліку даярак і механізатараў, у выніку чаго яны не могуць падтрымаць прафсаюзны фонд па аказанні дапамогі? А таму прафсаюзы і не могуць аказаць адчувальную дапамогу працаўнікам?**

— Абсалютна так.

**— Дарэчы, сельскія працаўнікі часта звяртаюцца за дапамогай у прафсаюзы?**

— Пастаянна.

**— За якой?**

— І за матэрыяльнай, і за юрыдычнай. І проста за парадай і падтрымкай.

**Пытанні задаваў Іван МАКАЛОВІЧ.**

## Не ревнуйте — не убьете

Вечером в Папернянский отдел милиции Минского РОВД с повинной пришел 52-летний кузнец автопарка из поселка Большевик. Мужчина заявил, что час назад в подвале одного из домов по улице Южной он пристрелил свою 50-летнюю супругу, а с ней 38-летнего соседа.

Причиной же двойного убийства стала банальная ревность, подкрепленная алкоголем.

Нужно сказать, что ревность — частая причина трагедий. В Несвиже около 2 часов ночи из больницы в РОВД поступило сообщение, что с проникающим ножевым ранением в голову доставлен и госпитализирован 27-летний рабочий пивзавода. Как нетрудно догадаться, тут тоже не обошлось без женщины. Тридцатилетний рабочий местного агрокомбината прожил со своей женой 6 лет. Все бы ничего, да только в последнее время начал он подозревать спутницу жизни в супружеской неверности. Ревнивец давно догадывался, что жена ходит налево, вот только доказательств не было.

В тот злополучный день супругу стало известно, где будет его жена. И с кем. Приняв для смелости "на грудь" и прихватив с собой кухонный нож, муж отправился на место тайной встречи предателей. Выбив ногой дверь известной ему квартиры, мужчина убедился в своих предположениях. Не мешкая, супруг бросился с ножом на свою жену. Однако той удалось увернуться. Удар пришелся в голову ставшего между ними любовника. Последнего доставили в реанимацию.

Необходимо добавить, что у этой молодой семьи растет 5-летняя дочь. Как объяснить девочке, что произошло с ее родителями?

**Евгений НАУМЧИК.**

## Помнік Ларысе Геніюш усталяваны і чакае свайго ўрачыстага адкрыцця

**Два гады таму прэса паведамляла, што створаны аргкамітэт па ўзвядзенні ў Зэльве помніка Ларысе Геніюш, што помнік, адліты ў сілуміне, стаіць у кабінеце старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў і чакае толькі таго часу, калі мясцовыя ўлады Зэльвы дадуць дазвол на яго ўзвядзенне.**

Як вы ўжо здагадаліся, нашыя шаноўныя чытачы, ні ўлады Зэльвенскага райвыканкама, ні ўлады Гродзенскага аблвыканкама такога дазволу не далі, хаця кіраўніцтва Саюза беларускіх пісьменнікаў неаднаразова звярталася з такім хадайніцтвам. Мабыць, пабаяліся, што ад устаноўкі гэтага помніка адбудзецца ў Зэльве землятрус, неба ўпадзе на зямлю, а зямля паляціць у неба, а можна чакаць і горшага — духам вялікай беларускай патрыёткі будзе знішчаны сучасны палітычны рэжым.

Вясной 2001 года аргкамітэту стала канчаткова зразумела, што ўсталяваць помнік у Зэльве да станоўчага вырашэння прэзідэнцкіх выбараў не ўдасца. Паўстала пытанне: што рабіць з помнікам? Разглядаліся тры прапановы: Анатоля Белага — помнік паставіць часова ў сядзібе-музеі ў Старых Дарогах, дзе дазвол на яго ўстаноўку не патрэбен; Міхася Скоблы — помнік часова паставіць у памяшканні краязнаўчага музея у в.Гудзевічы; Вольгі Іпатавай — помнік часова паставіць у памяшканні Дома літаратара.

Сябры аргкамітэта адхілілі прапанову А.Белага, палічыўшы, што Ларыса Геніюш ніяк не звязана са Старымі Дарогамі, а яе помнік павінен стаяць у Зэльве, дзеля гэтага ён і рабіўся. Па гэтай жа логіцы паставіліся і да Гудзевічаў з дадаткам таго, што помнік належыць да манументальнага мастацтва, а не з'яўляецца камерным творам. Застаўся варыянт захаваць помнік на нейкі час у Доме літаратара.

Улічваючы ўсю неабходнасць усталявання на Беларусі **першага** помніка рэпрэсаваным грамадзянам, кіраўніцтва клуба "Спадчына" на сваім пасяджэнні вырашыла, што лепшым увасабленнем усіх палітычна рэпрэсаваных на Беларусі можа паслужыць вобраз Ларысы Геніюш. Сябра клуба прафесар Аляксей Саламонаў звярнуўся да аўтара помніка, скульптара Міхася Інькова, з просьбай даць дазвол на аўтарскі паўтор помніка Ларысе Геніюш. Дазвол быў атрыманы, а праз тры месяцы новы помнік Ларысе Геніюш, выкананы ў медзі, быў дастаўлены на сядзібу Анатоля Белага ў Старых Дарогах і ў канцы верасня ўсталяваны на пастаменце.

Саюз беларускіх пісьменнікаў і кіраўніцтва клуба "Спадчына" прынялі рашэнне ўрачыста адкрыць помнік Ларысе Геніюш у Старых Дарогах 9 снежня бягучага года. У гэты дзень споўніцца 45 гадоў, як Ларыса Геніюш вярнулася на Бацькаўшчыну са сталінскіх лагераў. Улічваючы тое, што мы ставім першы помнік на Беларусі **паліткатаржанцы**, гэтая дата ў жыцці вялікай змагаркі павінна стаць дамінантай.

Саюз беларускіх пісьменнікаў, клуб "Спадчына" запрашаюць усіх, каму дарагая творчасць паэтэсы, хто лічыць сябе сябрам, вучнем, прыхільнікам, знаёмым Ларысы Геніюш, прыехаць 9 снежня ў Старыя Дарогі на адкрыццё помніка ёй. Няхай кожны адчуе непарыўную сувязь з Ларысай Геніюш.

А што да тэзы, "што Ларыса Геніюш ніяк не звязана са Старымі Дарогамі", то гэта памылка мястэчковага маштабу, бо вялікая дзяячка нашага Адраджэння кроўна знітавана з усёй этнічнай тэрыторыяй Беларусі, а таму і са Старымі Дарогамі. І кожны, хто прыедзе ў гэты горад на адкрыццё яе помніка, пераканаецца ў гэтым, калі сам пабачыць і пачуе, як "дзеткі патомныя" будуць чытаць вершы паэткі.

**Па даведкі звяртацца ў Саюз беларускіх пісьменнікаў ці да Анатоля Белага па тэл. 235-66-08 у Мінску, альбо 8-292-55-2-53 у Старых Дарогах.**

**Мікалай ІВАНАЧКІН.**

РЕГИОН

## Уборка урожая по-бобровски

В совхозе "Боброво" Лепельского района сто гектаров зерновых и зернобобовых не успели убрать к сроку. Чтобы скрыть отставание от "ударных темпов", решили хлебное поле "превратить" в кормовые культуры, а потом и вовсе махнули рукой на ниву. Проспали совхозники и уборку корнеплодов, рапса. "Второй хлеб" выковыривали из земли культиватором. Благодаря такому "агропромышленному новаторству" клубней накопали по... 11 центнеров с гектара! На 22 гектарах пропали многолетние травы. Теперь, по морозцу, в совхоз бросили "десант" из города: может быть, горожане кое-что спасут от "урожая-2001"...

## Обчистили "валютчика"

Крестьянин растил буренку и надеялся, что скоро она начнет давать молоко. Но скотина, как говорят в деревне, "забычала" — начала обрастать жиром. Ничего не оставалось, как пустить животное под нож. Перекупщики, как грифы, почуявшие запах крови, прибыли к хозяину. Торг закончился успешно для Василия: он получил за проданное мясо 200 долларов. О валютном бизнесе сразу стало известно всей деревне. Наверное, кто-то из соседей "шепнул" участковому: дескать, Василий стал неслыханным богачом. Надо его раскулачить.

Милиционеры, оставив важные дела, помчались к "кулаку". А тот, не подозревая ничего худого, выложил перед сыщиками весь свой скарб. Признался, как на духу, в сумме выручки за корову. Тут же его и две купюры по сто баксов увезли в отдел. Там бедолаге прочитали Уголовный кодекс и... на трое суток посадили в каталажку.

Арестант за 72 часа отсидки так и не понял своей вины перед законом. Выйдя на свободу, он тоже не может "врубиться", за что его привлекли к судебной ответственности. Но более всего Василий переживает за доллары, отнятые у него по решению суда как у нарушившего президентский декрет №1 от 05.09.1997 г. Ведь за них он рассчитывал купить телку и вырастить корову, без которой в деревне не прожить.

## Выбирали — веселились...

Недавно Оршанский горисполком проанализировал работу промышленных предприятий города. За девять месяцев каждое третье предприятие сработало с убытками, которые составили два миллиарда рублей. Зато на складах скопилось готовой продукции на 17 миллиардов рублей.

Фирма "Лёс", специализирующаяся на радиоэлектронике, спасая экономическое положение, пыталась заработать на шариковых ручках и солнцезащитных очках, которых в каждом "комке" — хоть пруд пруди. Прогорело, как "Заблоцкий на мыле", ОА "Орша": швейные машины не пользуются спросом (у населения на обновки денег нет, старое надо донашивать), так решили носовые платки выпускать. А вот ткани для них не оказалось, да и людям "носовики" нужны, пожалуй, для того чтобы слезы утирать. Наверное, для этой цели и самим швейникам они не помешают: зарплата до стодолларовой отметки никак не дотягивает.

## Меньше покупают мыла

Депутаты Толочинского райсовета на своей недавней сессии говорили о том, что за девять месяцев 25 процентов от всего товарооборота в районе составила реализация... виноводочных изделий. Люди стали чаще "прикладываться к чарке", зато — меньше интересуются "шкваркой". На прилавках магазинов залеживаются колбаса, крупа, макароны, молочные продукты, растительное масло и т.д. Даже мыло стали меньше покупать. И не удивительно: на знаменитую стодолларовую зарплату сейчас прожить проблематично. А если, к примеру, оршанские швейники получают около ста тысяч "зайчиков", а иные труженики и того меньше, то понятно, по какой причине покупательская способность у населения "ниже колена".

**Владимир ЖИГУЛОВ.**

## Слуцкія ваяры

**27 лістапада мы будзем адзначаць чарговыя ўгодкі Слуцкага збройнага чыну. Мы ўшануем памяць адважных ваяроў, якія аддалі жыццё за свабоду і незалежнасць нашай Бацькаўшчыны, змагаючыся з бальшавікамі.**

...У 90-х на месцы пахавання паўстанцаў у Вызне (зараз г.п. Чырвоная Слабада) быў устаноўлены памятны крыж з мемарыяльнай дошкай і надпісам. Але ён прастаяў нядоўга. Невядомыя вандалы спілавалі яго. Праз некаторы час мы зноў устанавілі крыж. І зноў ён быў вырваны з зямлі і адкінуты ў бок...

Зараз крыж схаваны ў надзейным месцы да лепшых часоў.

Кожны год 27 лістапада добрыя людзі, у якіх не адняло гістарычную памяць, ускладваюць вянкі і кветкі на месцах пахавання паўстанцаў: у Слуцку, Вызне, Семежаве, Грозаве.

Так будзе і на гэты раз. Мы ўшануем памяць усіх тых, хто загінуў за Беларусь, і будзем змагацца за сваю Радзіму — так, як змагаліся нашы землякі ў тыя далёкія 20-я гады. "Нам прыклад — Слуцкі збройны чын", — гэта радок з майго верша, прысвечанага гістарычнай падзеі.

**Ніна ЯРМАЛІНСКАЯ.**

**г.Салігорск.**

# Запах неволи...

**Сизые лица, сизый воздух, сизые мысли. Это — СИЗО. Место, где люди теснятся в ожидании милости от Юстиции, что в переводе означает "справедливость". О Витебском СИЗО написано немало. Еще больше об этом учреждении закрытого типа распространяется разных слухов. И неудивительно, ведь в камеры, где сидели рецидивисты, охранники могли доставить спиртное, сотовые телефоны и даже девиц вольного поведения. Несколько лет назад там скончался известный вор из Витебска. Медэксперты при вскрытии обнаружили в его организме большое количество алкоголя. А в декабре 1999 года в одной из камер был убит подсудимый, бывший майор милиции.**

СИЗО рассчитано на 1050 мест. Но было такое, когда "казематы" переполнялись втрое больше нормы. Тогда люди спали по очереди. Завшивленность, чесотка и даже дизентерия были спутниками заключенных. Здание, в котором размещается изолятор, построено еще в начале XIX века. Предназначалось оно для разных целей. Вначале это был заезжий двор Екатерины II. В 1925 году здесь впервые разместилась тюрьма. Одно время она была "приютом" для заключенных из бывших сотрудников НКВД. После войны архитектурный ансамбль расширился, а совсем недавно построено еще одно здание. Все эти строения (на площади менее одного гектара) обнесены высоким забором и "колючкой".

В настоящее время в изоляторе содержится 1200 человек. "Сидельцы", как говорится, "мастера на все руки": грабители, разбойники, мелкие воры, насильники, убийцы, уклоняющиеся от алиментов и т.д. По возрасту: несовершеннолетние от 14 лет и старики без ограничения в возрасте. Есть и женщины. Правда, за последние годы СИЗО "помолодело". Ежегодно оборачиваемость заключенных составляет несколько десятков тысяч. К примеру, за девять месяцев 2001 года здесь уже перебывало более 20 тысяч человек. Половина из них — транзитом в иные зоны.

Преодолев лабиринты металлических решетчатых дверей в сопровождении начальника СИЗО полковника милиции Сергея Васильевича Студенцова, мы смогли воочию убедиться, в каких условиях содержатся арестанты. Из 1200 заключенных 400 человек — подследственные.

Остальные — подсудимые, осужденные, ожидающие ответов на кассационные жалобы, и около ста "арестантов", которые, согласно Закону, с 1 января 2001 года (пока не будут построены арестные дома к 2003 году) отбывают здесь наказание за мелкие преступления, совершенные впервые, и злостные "уклонисты" от алиментов. Этим лицам предусмотрен срок до шести месяцев лишения свободы.

Но три камеры одиночные: в одной — осужденный к пожизненному заключению, а двое приговорены к высшей мере наказания. Все трое ждут помилования. Посмотреть на "смертников" нам разрешили только в дверной глазок.

В общих камерах духота и специфический запах... На воле такого нет!

Один час в сутки заключенным положена прогулка на свежем воздухе. Под небом "в клеточку" их лица преображаются, становятся веселее...

Создавалось впечатление, что все заключенные знают "хозяина" в лицо, а он — их. Причем поименно.

— Благодаря ежедневному общению с подопечными удается наладить контакт, заглянуть в их души, — говорит Сергей Васильевич. — К тому же после того как в декабре 1999 года в изоляторе произошло убийство, пришлось резко изменить методы работы персонала, некоторых уволить. Теперь мы не берем на службу "с улицы". Контролеры после окончания вузов переходят на офицерские должности и занимаются воспитанием заключенных. Уже два года ежемесячные проверки областной прокуратуры и УВД не выявляют серьезных нарушений в СИЗО. Проверяет один раз в году и Министерство внутренних дел. Их акты нас радуют.

Мы побывали в нескольких камерах, и заключенные не высказывали каких-либо претензий. За исключением одной.

— Обещали, гражданин начальник, к 9 сентября вытравить клопов. Спать невозможно. Простыни все в крови.

Тут же поступила команда разобраться и доложить о выполнении.

— Личная неряшливость заключенных — главная причина этого негатива, — говорит полковник. — К тому же новички заносят насекомых-паразитов. Не успеваем дезинфекции проводить. Кстати, врач-фтизиатр Анатолий Резо уверенно заявил, что 99,9% больных туберкулезом поступают со свободы, бывают даже с открытой формой. В этом году уже выявлено 19 больных. И 20 человек — ВИЧ-инфицированные. Правда, система защиты от инфекции отработана в СИЗО четко, но возможность заразиться не исключена, ведь и на "гражданке" в идеальных условиях риск имеет место.

В новом здании разместилась обслуга из 120 человек: осужденные до пяти лет лишения свободы (повара, слесари-сантехники, столяры, уборщики и т.д.). Это дало возможность расширить "апартаменты" подследственных, подсудимых и осужденных.

С тех пор как начальником СИЗО стал полковник С.Студенцов, многое изменилось. Во-первых, отремонтирована медсанчасть, приобретено новейшее оборудование, в том числе и рентгенаппарат, способный выдавать диагноз на компьютер. Имеется при санчасти лаборатория, стоматологический кабинет, а также врачи: фтизиатр, психолог, терапевт и необходимое количество фельдшеров. Если возникает дефицит лекарств, то по понедельникам (с 10 до 12) родственники больных могут принести необходимые таблетки.

Кормят заключенных три раза в день, правда, всего на 550 рублей. Те, кто не нарушает установленных правил, могут получить один раз в месяц от родственников продовольственную посылку весом 30 кг или два раза по 15 кг.

Несмотря на такие "удобства", никто не хочет здесь засиживаться. Все стремятся на волю, а побывав там, многие почему-то вновь возвращаются на нары. Последние годы количество любителей казенных харчей увеличилось, особенно за счет молодежи. И это ужасно, ведь молодежь — будущее нашей страны. Но это другая тема... Вернемся к проблемам СИЗО.

Полвека, а может, и больше на территории изолятора не менялись инженерные коммуникации. Недавно прорвало водопровод. Пришлось мобилизоваться (благо, есть рабочие руки) и с помощью специалистов водоканала заменить сто метров прохудившихся труб. Правда, без воды не остались ни кухня, ни камеры. Была организована ее подвозка в емкостях. Хватает забот у руководства и по обеспечению заключенных питанием. Необходимо заготовить картошку, морковь, капусту и прочие овощи, заключить договоры с мясокомбинатом, молокозаводом и т.д. Это на "гражданке" надо горбом зарабатывать харчи, а здесь все бесплатно. Покормят, в бане помоют, подлечат, лекцию о благородных нравах прочитают, к тюремному священнику отведут исповедаться и подумать о жизни. А думать есть над чем. И не только зекам, но и всему обществу.

**Владимир ЖИГУЛОВ.**

Фото IREX/ProMedia.

